# Почему интернет-газета оказалась чужой на празднике электронной жизни?

*Несколько дней назад Александр Лукашенко посетил в столице международную выставку PTS'2003. Там он увидел много интересного. Только вот экспозиции первой в нашем отечестве общественно-политической интернет-газеты "Белорусские новости" глава государства, увы, не увидел. Но это отдельная история.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Кто не знает: полное название этой выставки — "Перспективные технологии и системы". Вообще же период с 3 по 9 ноября назван Неделей информационных технологий. Объявлено, что ныне она проходит под патронажем президента Беларуси. То есть всячески подчеркивается, что наше руководство мыслит современно и все такое.

Возможно, повышенное внимание к перспективным технологиям объясняется и тем, что недавно, 24 октября, первая в истории **попытка провести пресс-конференцию главы нашего государства в онлайне** — проще говоря, с прямой трансляцией в Интернете — ознаменовалась досадным казусом. Онлайна не получилось. Эксперты склонны считать, что сплоховали те спецы, что поддерживают официальный сайт президента Беларуси. Кивают и на монополизм "Белтелекома", который-де в своем амплуа так называемого "первичного провайдера" отнюдь не идеально соответствует задачам динамичного развития отечественного сегмента Всемирной паутины.

Зато на высоте оказалось пропагандистское обслуживание. Технический облом выдали за показатель бурного интереса к мероприятию (даже сервер-железяка не выдержал лавины обращений!), а поступившие накануне электронные послания преподнесли как факт общения продвинутой публики с державным лидером в режиме реального времени. Короче, полный онлайн!

На открытии выставки PTS'2003 официальные лица не единожды упоминали программу "Электронная Беларусь", подчеркивая, что она одобрена лично Александром Григорьевичем Лукашенко. Подразумевается, что теперь развитие перспективных технологий у нас пойдет вперед семимильными шагами. По мнению же независимых экспертов, параметры программы трудно назвать революционными. Притом что ныне Беларусь в плане компьютеризации и развития Интернета выглядит скромно даже на фоне других государств СНГ, не говоря уже о развитых странах. Согласно свежему исследованию Объединенного института проблем информатики Национальной академии наук, у нас на 100 человек приходится 7,77 персонального компьютера. В свою очередь, лишь 7,39 процента машин подключено к Интернету.

По мнению известного футуролога **Александра ПОТУПЫ** (он же, кстати, возглавляет Белорусский союз предпринимателей, так что к числу кабинетных теоретиков не относится), правящая элита, озабоченная вопросами удержания авторитарной власти, в принципе консервирует отставание Беларуси в сфере информационных технологий.

***"В то время как развитые страны все больше сосредотачиваются на производстве информационного продукта, у нас системных изменений в данной сфере — при нынешней организации белорусского общества и власти — ждать не приходится,*** — сказал Александр Потупа в интервью "Белорусским новостям". — ***Вероятны разве что отдельные прорывы — как это было характерно для Советского Союза в области военных технологий".***

Особенно досадно, по мнению эксперта, то, что страна упускает свой шанс вписаться в реалии информационного общества, имея для этого неплохие исходные условия. В частности — достаточно высокий образовательный уровень населения. ***"Белорусские хакеры славятся во всем мире",*** — с улыбкой отмечает Александр Потупа. Если же говорить вполне серьезно, то наши соотечественники хорошо зарекомендовали себя, например, **в офшорном программировании.** Иначе говоря, там, куда не дотягивается суровая регламентирующая рука родного государства.

В то же время мы видим, как эта рука укрепляет если не железный, то пластиковый занавес даже на границе с формально союзной нам Россией, отметил далее эксперт. Курс на информационную изоляцию белорусов, их ограждение от "вредных", по критериям официального Минска, информационных потоков ярко проявляется, скажем, в политике по отношению к российским телеканалам. Как известно, почти все они целиком или частично заменены не блестящим по качеству, но зато идеологически выверенным продуктом местного производства. ***"Далее,*** — прогнозирует собеседник, — ***вполне вероятно ужесточение контроля в сфере Интернета, благо, есть опыт Китая, ряда исламских стран, Туркменистана. Поскольку у нас, как известно, "Белтелеком" является монополистом в сфере предоставления интернет-услуг, в случае чего перерезать канал можно элементарно".***

Притом что информационная инфраструктура в Беларуси выглядит слаборазвитой, налицо тяготение властной верхушки к закручиванию гаек, которое прикрывается, в частности, лозунгами "создания надежной системы информационной безопасности". Как замечает Александр Потупа, ***"развитое информационное пространство требует глубоко демократического устройства общества".*** Огромную роль в нем играет, в частности, контрольно-корректирующая функция СМИ. Но белорусской правящей элите это сто лет не надо. Она, по мнению эксперта, прежде всего озабочена тем, как сохранить свое нынешнее всевластие. А государственный лидер, как можно догадаться по его же прозрачным рефренам на тему "и третьего срока, и десятого", серьезно размышляет над вариантами пролонгации своих полномочий. Вот эти, мягко говоря, прагматичные задачи явно берут верх над соображениями в пользу динамичного развития информационных технологий.

Ну а что же случилось с экспозицией *"Белорусских новостей"*, спросите вы. Ведь в первый день выставки в павильоне "Белэкспо" был замечен бренд первой в стране онлайновой газеты. Увы, в тот же день редакцию с мероприятия, скажем так, попросили. Извините, говорят, ошиблись — типа два билета на одно место продали. И даже показали какую-то схему, где в отсек, куда "заселили" сгоряча "Белорусские новости", действительно вписано название другой фирмы. Организационная накладка, в общем. И формально к этим доводам комар носа не подточит.

Только вот узнавшие про инцидент коллеги почему-то все как один скептически улыбаются. И затем излагают свою версию того, почему независимое интернет-издание, позволяющее себе достаточно критично комментировать официальную политику, оказалось чужим на этом празднике электронной жизни.

"Как, говорите, называется выставка?" — переспрашивают нас собеседники. "Перспективные технологии и системы"? А не кажется ли вам, что тут сработали как раз таки старые технологии? И старая система...

*("Белорусские новости")*

**ПАЛІТКУХНЯ**

# У Еўропу — праз раскол?

*Еўрапейскую кааліцыю "Свабодная Беларусь" стваралі ў Міжнародным адукацыйным цэнтры, зала якога была ўпрыгожаная мноствам паветраных шарыкаў сіняга колеру з жоўтымі еўрасаюзаўскімі зоркамі. Што адбылося пад тымі шарыкамі: шчырае імкненне надаць нашай краіне накірунак у Еўропу альбо чарговая спроба раскалоць беларускую апазіцыю?*

*"У свеце ідзе працэс глабалізацыі, ад якога мы нікуды не падзенемся. Перад Беларуссю паўстаў гістарычны выбар, важнейшы за іншыя выбары,* — гэтак старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) **Мікалай СТАТКЕВІЧ** патлумачыў патрэбу стварэння гэтак званай Еўрапейскай кааліцыі "Свабодная Беларусь". — *У наступным годзе нашы суседзі ўступаюць у Еўрасаюз. Я ўпэўнены, што калі праз 15—20 год Беларусь не будзе часткай Еўропы — яна будзе часткай Расіі. Еўрапейскі выбар — гэта выбар дэмакратыі, дабрабыту і захавання нацыянальнай культуры. Цяперашні ўрад дэманструе антыеўрапейскую пазіцыю — пры тым, што за еўрапейскую будучыню, зыходзячы з матэрыяльных інтарэсаў, выступае большасць беларусаў".*

У Еўрапейскую кааліцыю "Свабодная Беларусь" увайшлі 2 палітычныя партыі: БСДП (НГ) і Жаночая партыя "Надзея" (тое, што засталося ад яе пасля таго, як значная частка партыі далучылася да сацыял-дэмакратаў С.Шушкевіча). Акрамя іх, кааліцыю склалі больш за два дзесяткі грамадскіх арганізацый і грамадзянскіх ініцыятыў (праўда, назвы большасці з іх асабіста я пачуў упершыню — але віною таму, відаць, мая недасведчанасць).

У вочы кінулася вялізная колькасць аб'яднанняў, назвы якіх пачынаюцца са слова "жаночы" (не ведаў, што беларускія жанчыны панараджалі столькі структур, і тым больш не ведаю, чым яны адрозніваюцца адна ад другой): "Жаночы форум", "Жаночы альянс", "Жаночы рух", "Жаночая ліга", "Жаночая асацыяцыя"... *"Ёсць дзве сілы, здольныя змяніць свет, — гэта жанчыны і моладзь,* — пафасна абвясціла **Святлана БЯСТУЖАВА,** старшыня "Жаночага інфармацыйна-каардынацыйнага цэнтра". Маладзёвыя арганізацыі, дарэчы, таксама ёсць у ліку стваральнікаў кааліцыі. І яшчэ прадпрымальніцкія. *"Прадпрымальнікі даўно ўступілі ў Еўрасаюз, закупляючы там тавар або развіваючы тут вытворчасць, і гэтыя кантакты неабходна пашыраць на палітычным узроўні,* — сказаў вядомы актывіст прадпрымальніцкага руху **Валерый ЛЕВАНЕЎСКІ.** — *Я думаю, што прадпрымальнікі на 100% падтрымліваюць ініцыятыву стварэння Еўрапейскай кааліцыі "Свабодная Беларусь".*

Арганізатары заявілі, што кааліцыя ствараецца *"не супраць некага, а дзеля пошуку сяброў — мы не адштурхоўваем нават тых, хто ўваходзіць ва ўладу, але выступае за еўрапейскую будучыню".* І запрасілі ў сваю кааліцыю ўсе дэмакратычныя сілы: *"Мы лічым, што сёння закладзены той фундамент, на якім будзе пабудаваны адзіны дэмакратычны блок",* — сказаў М.Статкевіч.

Між тым, эксперты настойліва выказваюць думку, што, насуперак заявам арганізатараў, Еўрапейскую кааліцыю стварылі менавіта як супрацьвагу шырокаму аб'яднанню апазіцыйных сіл, асноўнымі стваральнікамі якога з'яўляюцца 5 палітычных партый (ад БНФ да камуністаў). *"Гэтае аб'яднанне не мае стратэгіі перамогі",* — лічыць адзін з падпісантаў Еўрапейскай кааліцыі **Анатоль ФЁДАРАЎ,** старшыня "Беларускай салідарнасці".

Я пацікавіўся меркаваннямі тых, хто ў Еўрапейскую кааліцыю "Свабодная Беларусь" не ўвайшоў.

**Аляксандр ПАТУПА, старшыня Саюза прадпрымальнікаў:** "Ідэя стварэння кааліцыі пад назваю "Еўрапейскі вектар" ужо чатыры гады неаднаразова прапаноўвалася мною. Думаю, што стварэнне руху, які ясна артыкулюе неабходнасць уваходжання Беларусі ў Еўрасаюз і прыхільнасць да еўрапейскіх стандартаў, з'яўляецца вельмі правільным. Але трэба было рабіць гэта без партыйных прэтэнзій на лідэрства, дамаўляцца на вельмі шырокай аснове — у прыватнасці, адразу запрашаць усе партыі да падрыхтоўкі базавых дакументаў, а не прапаноўваць ім апасля далучацца да чыёйсьці персанальнай "раскруткі". У дадзеным выпадку, як уяўляецца, вельмі добрую ідэю еўрапейскай інтэграцыі збіраюцца звузіць да задачы вузкапартыйнай рэкламы".

**Уладзімір РОЎДА, дацэнт кафедры паліталогіі Белдзяржуніверсітэта:** "Галоўныя арганізатары Еўрапейскай кааліцыі заўсёды дэкларавалі неабходнасць адзінства — але, насуперак уласным словам, на адзінства ніколі не працавалі, дзейнічалі збольшага дэструктыўна. Большасць партый, што ўвайшлі ў "пяцёрку", таксама падтрымліваюць еўрапейскія каштоўнасці, і каб заявіць пра тое, што мы, маўляў, таксама за Еўропу, не варта было будаваць асобную кааліцыю. Здаецца, гэты ход накіраваны ў першую чаргу на заходніх спонсараў. У "пяцёркі" сапраўды няма стратэгіі — але ж яе няма і ў гэтай кааліцыі. Хутчэй за ўсё, гэта проста завуаляваная спроба стварыць альтэрнатыўны блок".

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:** "Мы не разглядаем гэтае аб'яднанне — з пункту гледжання ні колькасці, ні якасці — як сур'ёзную альтэрнатыву вялікай кааліцыі. Але магчыма, што ўлады скарыстаюць наяўнасць гэтага аб'яднання ў барацьбе з працэсам кансалідацыі апазіцыйных сіл, асабліва падчас выбарчай кампаніі".

**Ута ЦАПФ, старшыня Рабочай групы Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі:** "На жаль, наша сустрэча з кіраўнікамі апазіцыйных партый праходзіла ў фармаце "5+1": сацыял-дэмакраты Мікалая Статкевіча пакуль не далучыліся да агульнай кааліцыі. Мы спадзяёмся, што апазіцыя будзе дзейнічаць як адзіны блок на парламенцкіх выбарах".

Кіраўніцтва "Еўрапейскай кааліцыі" фармальна не абіралася — але найбольш актыўнымі выступоўцамі былі Андрэй Саннікаў і Мікалай Статкевіч. Менавіта яны падпісалі дэкларацыю аб стварэнні апошнімі і, быццам падвялі рысу, замацавалі свой акт пацісканнем рук і шырокімі ўсмешкамі ў аб'ектывы фотакамер. Зусім па-еўрапейску.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ.**

**ЭКАНОМІКА**

*Многіх цікавіць, куды можна ўкласці чэкі "Маёмасць", тым больш, што тэрмін абарачэння іх заканчваецца ў наступным месяцы.*

# Куды ўкласці чэкі «Маёмасць»?



А ці не ўкласці чэкі ў распрацоўку нафтарадовішч?.

Фота ByMedia.net

З 15 лістапада ў падраздзяленнях ААБ "Беларусбанк" пачнецца абмен на іменныя прыватызацыйныя чэкі "Маёмасць" акцый яшчэ 10 ААТ паводле пераліку № 28. Гэты пералік зацверджаны загадам Міністэрства эканомікі № 121 ад 24 кастрычніка гэтага года. Агульная колькасць акцый ААТ для абмену на чэкі па гэтым пераліку складае 1 млн. 295 тыс. 464 штукі, ліміт прыёму - 3 млн. 809 тыс. 686 чэкаў "Маёмасць".

Паводле афіцыйнай інфармацыі Мінэканомікі, у пералік уключаны два прадпрыемствы Гомельскай вобласці: ААТ Рагачоўскае хлебапрыёмнае прадпрыемства (галіна дзейнасці - аптовы гандаль збожжам, насеннем і кармамі для жывёл, аптовы гандаль цукрам, шакаладнымі і кандытарскімі вырабамі, мукой, крупамі) і ААТ "Рэчыцкі тэкстыль" (вытворчасць і аптовы гандаль тэкстыльнымі таварамі і вырабамі, рознічны гандаль харчовымі прадуктамі, прадастаўленне паслуг цырульняў і салона прыгажосці).

Пяць прадпрыемстваў размешчаны ў Мінску; гэта ААТ "Мантажспецкамплект" (аптовы гандаль тэкстыльнымі таварамі, адзеннем, абуткам, бытавымі электратаварамі, вырабамі з керамікі і шкла, шпалерамі, мэбляй, металапракатам і абсталяваннем), ААТ "Аўтагандальсервіс" (тэхабслугоўванне і рамонт аўтамабіляў, гандаль аўтадэталямі), ААТ "Аргхарчпрам" (мантаж, наладка, рамонт і тэхабслугоўванне неэлектрычных печаў, пад'ёмнага і такелажнага абсталявання, прамысловага халадзільнага і вентыляцыйнага абсталявання), ААТ "Хімрамонт" (распілоўка і струганне драўніны, вытворчасць столярных вырабаў, мантаж, наладка і рамонт паравых і вадагрэйных катлоў, халадзільнага і вентыляцыйнага абсталявання, будаўнічыя работы) і ААТ "Паліграфкамбінат імя Я.Коласа" (паліграфічная дзейнасць і паслугі ў гэтай галіне, выдавецкая дзейнасць, вытворчасць вырабаў з паперы і кардону, рознічны гандаль кнігамі і газетамі).

Яшчэ адно прадпрыемства - ААТ "Бульба" - размешчана ў Самахвалавічах Мінскага раёна. Галіна яго дзейнасці - таварныя агародніцтва і садаводства, вытворчасць прадуктаў апрацоўкі збожжа, аптовы гандаль харчовымі прадуктамі.

У пералік таксама ўключаны брэсцкія радыётэхнічны і электратэхнічны заводы, абмен акцый якіх на чэкі раней быў прыпынены, але з 15 лістапада будзе адноўлены. ААТ "Брэсцкі радыётэхнічны завод" спецыялізуецца на вытворчасці тавараў народнага спажывання і прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння, ААТ "Брэсцкі электратэхнічны завод" - вытворчасці прыбораў камерцыйнага ўліку электраэнергіі і газу, сельскагаспадарчым машынабудаванні, вытворчасці медыцынскай тэхнікі і тавараў народнага спажывання.

Для абмену на акцыі прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца, прымаюцца чэкі, налічаныя грамадзянам, атрыманыя ў спадчыну, а таксама пераафармленыя грамадзяніну ад блізкіх сваякоў (але не больш за 250 чэкаў сумарна на працягу ўсяго перыяду бязвыплатнай прыватызацыі).

Паводле інфармацыі Мінэканомікі, сёння на руках у насельніцтва знаходзіцца каля 200 млн. штук нявыкарыстаных чэкаў "Маёмасць"; забяспечанасць іх пакрыцця акцыямі ААТ не перавышае 75 працэнтаў ад неабходнай колькасці.

У Мінэканомікі зазначаюць, што попыт на акцыі ААТ з боку насельніцтва апошнім часам павялічыўся; штомесяц грамадзяне абменьваюць на іх ад 500 да 800 тысяч чэкаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

**ЗАДУМАЕМСЯ...**

***Што адбываецца ў нашай эканоміцы? Ці ёсць спадзяванне на лепшае? Давайце ўважліва прааналізуем факты апошніх дзён і паспрабуем у іх, нібы ў кроплях вады, убачыць "раку" нашай эканамічнай плыні.***

## Брацкае сяброўства і «Газпрам»

Немалы ўплыў на эканамічную сітуацыю акажа дамова з расійскім "Газпрамам". Гэты газавы манапаліст Расіі дэманструе не лепшыя адносіны да Беларусі.

Днямі расіяне і ўкраінцы падпісалі дагавор, згодна з якім наша паўднёвая суседка атрымае газ па 50 долараў за тысячу кубаметраў. Кошт транзіту па ўкраінскай тэрыторыі складзе 1 долар 9 цэнтаў за перапампоўванне тысячы кубаметраў на адлегласць 100 кіламетраў. Нашай краіне яны заламалі больш высокую суму і амаль у два разы менш плаціць за транзіт свайго газу. Чаму?

Аналітыкі прыкмецілі, што няміласць "Газпрама" праявілася пасля таго, як Беларусь адмовілася за бясцэнак аддаваць расіянам свой "Белтрансгаз". Спачатку яны гатовы былі заплаціць за вядучае наша прадпрыемства ўсяго 600 мільёнаў долараў. Пазней цану крыху ўзнялі. Беларускі бок просіць каля 5 мільярдаў долараў.

Ідзе нармальны гандаль. Адзін хоча больш выручыць, другі — больш танна набыць. Дамаўляйцеся. Але расійскі бок павёў сябе даволі дзіўна. Ён прыгразіў, што рэзка ўзніме цану або наогул спыніць падачу газу. Такая пазіцыя, як кажуць, наогул "не лезе ні ў якія вароты". Гэта прамы шантаж. Няхай бы паспрабавалі такой мовай размаўляць з вядучымі заходнімі кампаніямі і краінамі. Ад іх наогул адвярнуліся б. А вось з Беларуссю, аказваецца, можна. Вось вам і брацкая дружба. Хочацца спадзявацца, што эмоцыі і жаданне прымусіць беларусаў па дзяшоўцы аддаць "Белтрансгаз" саступяць разважлівай пазіцыі.

Вядома, "Газпрам" не паводзіў бы сябе так, калі б беларускія ўлады не дапусцілі ў свой час грубай памылкі і "не прывязаліся б" толькі да Расіі. Агульнавядома, што энерганосьбіты, як і другія стратэгічныя рэсурсы, нельга атрымліваць толькі з адной краіны і крыніцы. Іх трэба мець мінімум 3—4. У той жа Расіі, у яе законах запісана, што замежны інвестар не можа мець у газатранспартнай сістэме краіны больш за 20 працэнтаў акцый.

Пра такую ісціну даўно напамінае ўладам апазіцыя, не раз пісала і наша газета. Ды яны не прыслухаліся, амаль на сто працэнтаў прывязалі краіну да Расіі. Вось цяпер яе "Газпрам" і мае магчымасць дабівацца свайго.

## Ці па кішэні?

Ці па кішэні працоўным камунальныя плацяжы? Днямі на гэтую тэму ў нашай газеце быў змешчаны матэрыял. Ён выклікаў рэзананс. Паведамленні, якія паступілі ў рэдакцыю, сведчаць, што далёка не ўсе могуць адшукаць у сямейным бюджэце сродкі на аплату камунальных паслуг. Так, па інфармацыі з упраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі Мінгарвыканкама, больш як 13 працэнтаў гараджан маюць запазычанасць па кватрплаце. Больш за два месяцы не аплачваюць камунальныя паслугі 70 тысяч сталічных сем'яў. У некаторых даўгі складаюць мільён рублёў.

Заўважце, доўг склаўся за летнія месяцы, калі кошт паслуг параўнальна невысокі. А што будзе пасля налічэння аплаты за ацяпленне? Зразумела, што колькасць неплацельшчыкаў можа падвоіцца, а то і патроіцца. Дарэчы, праблему бачаць і ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Намеснік міністра Валерый Новак, выступаючы ў парламенце, зазначыў, што насельніцтва не ў стане аплачваць камунальныя паслугі поўнасцю, якія да таго ж не заўсёды добрай якасці.

Што гэта так, сведчаць даныя па зарплаце.

Возьмем для прыкладу хоць бы Віцебскую вобласць. Найбольшыя заробкі тут у банкаўскіх работнікаў. У сярэднім яны складаюць 449 тысяч рублёў. Па трыста тысяч за месяц маюць работнікі будаўніцтва, транспарту, органаў дзяржаўнага кіравання. А вось бюджэтнікі — ад 180 да 218 тысяч за месяц. У Браслаўскім раёне сярэдняя зарплата ў верасні склала 196 тысяч, у Глыбоцкім — 195 тысяч. Вось паспрабуй з такой сумы выкраіць 100 тысяч на аплату камунальных паслуг. Прычым гэта толькі кошт названых паслуг, які чакаецца за трохпакаёўку. А яшчэ ж трэба аплаціць за святло, тэлефон. Такі кошт нават і для банкаўскіх работнікаў адчувальны, не гаворачы ўжо пра работнікаў культуры і сацыяльнай сферы.

## Расонскі варыянт

У гэтыя ж дні з'явіўся і станоўчы факт. Узнавіў сваю працу цагляны завод у райцэнтры Расоны Віцебскай вобласці. Тут з'явілася 210 новых рабочых месцаў.

Прадпрыемства было пабудавана ў 1992 годзе на сродкі акцыянераў, якімі выступілі тады буйнейшыя прадпрыемствы Наваполацка. Пазней ён спыніў працу з-за страт і даўгоў. Летась пачалося ажыццяўленне праграмы па аднаўленні патрэбнай вытворчасці. Прадпрыемства было перададзена ў падпарадкаванне Обальскаму керамічнаму заводу. З яго дапамогай пагасілі даўгі, запусцілі новае абсталяванне. Чакаецца, што ўжо ў наступным годзе завод вырабіць столькі цаглін, што дазволіць заплаціць у бюджэт каля мільярда рублёў падаткаў. Каля 80 працэнтаў прадукцыі мяркуецца пастаўляць у Расію.

Вось каб такіх фактаў ды як мага больш!

**Алесь ДРАБЧУК.**

**СРАВНИМ**

## Цены на бензин и дизтопливо: у нас, в России и в Украине

Пока в высоких кабинетах идет спор о том, по какой цене Россия продает Беларуси газ и нефть, простые граждане озабочены куда более прозаичными вопросами: где подешевле купить бензин. Например, жители приграничного райцентра Лиозно Витебской области покупают топливо для своих автомобилей за границей, то есть на территории Российской Федерации, где бензин примерно на треть дешевле. Большая разница и на дизтопливо.




Мы решили сравнить цены на бензин в Беларуси и странах, граничащих с нами, — в России и Украине, не забывая при этом, что средняя заработная плата в наших странах разная. В Беларуси — 128 долларов, в России — 170, а в Украине — 95.

**Потребительские цены на бензин (в долларах США за литр)**

| | АИ-95 | АИ-92 | А-76 | ДТ |
|---|---|---|---|---|
| **Беларусь** | **0,64** | **0,55** | **0,45** | **0,45** |
| Россия | 0,43 | 0,38 | 0,32 | 0,29 |
| Украина | 0,40 | 0,36 | 0,31 | 0,33 |

Если провести несложное арифметическое действие, то легко можно узнать, сколько литров бензина в месяц может купить за среднюю зарплату житель Беларуси, России и Украины. И получается, что мы безнадежно отстали по этим показателям не только от России, но и от Украины, где, согласно официальной статистике, заработная плата на 30 с лишним долларов ниже, чем в нашей стране.

**Количество бензина и дизтоплива, которые можно приобрести на среднюю зарплату (в литрах)**

| | АИ-95 | АИ-92 | А-76 | ДЗ |
|---|---|---|---|---|
| **Беларусь** | **200** | **232,7** | **284,4** | **284,4** |
| Россия | 395:3 | 447,3 | 531,2 | 586,2 |
| Украина | 237,5 | 263,8 | 306,4 | 287,8 |

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## У Центробанка Европы — новый президент

*На днях вступил в должность новый президент Европейского Центрального банка Жан-Клод Трише, который сменил на этом посту Вима Дуйзенберга.*



За плечами у 60-летнего Трише типичная карьера высокопоставленного французского чиновника. После учебы в нескольких элитарных учебных заведениях он получал портфели в правительствах как левого, так и правого толка. С 1987 года Трише стал одним из руководителей Министерства финансов и казначейства, а в 1993 году ему была доверена должность главы Центрального банка Франции. Трише, как и Дуйзенберг, приложил немало усилий для подготовки введения евро как единой европейской валюты. Вот одно из его наиболее характерных высказываний:

"Мне хотелось бы сказать Вам только одно, и, надеюсь, я вас не разочарую: создание сильного и стабильного евро отвечает интересам всех стран — членов Евросоюза".

Поддержание стабильности европейской валюты станет одной из главных задач нового главы ЕЦБ, особенно в свете грядущего расширения Евросоюза. Трише относят к числу наиболее ревностных блюстителей европейского Пакта стабильности. И в этом смысле он — прямой продолжатель политики своего заслуженного предшественника Дуйзенберга, который перед своим уходом сказал буквально следующее: "Лучше всего будет, если Трише станет моим клоном. Он должен предпринять всё, что в его силах, для продолжения политики финансовой стабильности".

Судя по всему, так оно и будет. Рынок отреагировал на приход нового главы Европейского Центробанка достаточно спокойно. Большинство аналитиков уверено, что каких-либо значительных перемен в финансовой политике еврозоны в ближайшем будущем не предвидится.

**МИРОВЫЕ НОВОСТИ**

## Беспилотные самолеты — новые перспективы

*Место Джеймса Бонда за штурвалом самолета Global Hawk занял робот. Правда, совсем без людей здесь не обошлось — полетом "трутня" (так называют западные военные специалисты беспилотные летательные аппараты) управляют с земли при помощи спутниковой связи два диспетчера.*

История серьезной эксплуатации тяжелых "беспилотников" насчитывает от силы два года. Впервые Global Hawk был показан на авиасалоне в Ле-Бурже в 2001 году. В общей сложности в США построено девять таких машин. Теперь с "трутнями" начали работать и специалисты европейского аэрокосмического концерна EADS.

В чем же преимущества беспилотных летательных аппаратов? Во-первых, в среднем, они на порядок дешевле пилотируемых самолетов, которые нужно оснащать системами жизнеобеспечения и защиты. Кроме того, необходимо готовить пилотов, а это также стоит больших денег. В итоге — отсутствие экипажа на борту существенно снижает затраты на выполнение того или иного задания. Во-вторых, легкие (по сравнению с пилотируемыми самолетами) беспилотные летательные аппараты потребляют меньше топлива. Так что в будущем для них открывается и реальная перспектива перехода на криогенное топливо. В-третьих, в отличие от пилотируемых самолетов машинам без пилота зачастую не нужны аэродромы с бетонным покрытием. Многие "беспилотники" взлетают с помощью катапульты, а приземляются "по-самолетному", как истребители на авианосцах. К тому же, благодаря стремительному развитию электроники, существенно подешевела "начинка" — бортовые компьютеры "беспилотников". С внедрением современной цифровой техники их "мозг" стал не только дешевле, но и умнее, компактнее и легче. С точки зрения военных, в недалеком будущем беспилотные летательные аппараты найдут применение там, где в разведывательной операции или воздушном бою можно обойтись без пилота. Судя по всему, к 2010—2015 годам боевые операции в воздухе сведутся к схваткам автоматизированных систем между собой, то есть к "войне роботов".

**ОТ ИНФОРМАЦИОННОГО АГЕНТСТВА ВЛАДИМИРА ГРЕВЦОВА**

## Исчезнут ли очереди?

Приняты меры по устранению очередей возле таможенного пункта пропуска "Козловичи".

С целью упорядочения прибытия транспортных средств на таможенный пункт "Козловичи" и исключения возникновения очередей в непосредственной близости от пункта пропуска, предварительное размещение транспортных средств, следующих на выезд из РБ, производится на территории РУТП "Брестгрузавтосервис". Количество и время выпуска автотранспортных средств с территории предприятия определяется диспетчерской службой предприятия по согласованию с должностным лицом таможенных органов.

Также БАМАП обращает внимание перевозчиков на правильное использование времени срока доставки. Согласно ст. 36 Таможенного Кодекса РБ, товары должны доставляться в таможенный орган назначения в сроки, установленные таможенным органом отправления исходя из возможностей транспортного средства, намеченного маршрута и других условий перевозки.

## Отчисления на строительство жилищной инфраструктуры

Минский областной исполнительный комитет (Миноблисполком) будет взимать плату на строительство объектов жилищной инфраструктуры.

Нормы отчислений на строительство жилищной инфраструктуры зафиксированы решением Миноблисполкома от 15 октября 2003 г. № 789. Физическими и юридическими лицами в городах будет перечисляться до 20 процентов, в других административно-территориальных единицах — до 10 процентов от стоимости строительства 1 кв. метра общей площади жилых помещений. То есть платеж является единовременным, уплачивается при строительстве жилья и его сумма зависит от "метража" дома или квартиры.

Этот сбор могут не уплачивать юридические лица, строящие объекты за счет бюджетных средств. Граждане, состоящие на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий, освобождаются от платы за создание жилищной инфраструктуры в пределах нормативного минимума общей площади, установленного законодательством.

## «Отопительный норматив» стал дороже

Минский городской исполнительный комитет (Мингорисполком) утвердил нормативную себестоимость центрального отопления жилых помещений, принадлежащих гражданам или арендуемых ими.

Точнее, этот норматив используется в отношении жилых помещений, находящихся у граждан в собственности и (или) по договору найма, при отсутствии в них проживающих (прописанных) собственника или нанимателя и членов их семей. Решением Мингорисполкома от 23 октября 2003 г. № 1854 установлено, что с 1 октября 2003 года указанный норматив составляет 26.632 рубля за 1 гигакалорию. Решением Мингорисполкома от 2 октября 2003 г. №1723 "отопительный" норматив был установлен на уровне 25.881,4 рубля за гигакалорию. С января 2003 года нормативная себестоимость центрального отопления была равна 23.531,7 рубля за гигакалорию.

Решение № 1854 зарегистрировано в НРПА 31 октября 2003 г. под № 9/2994.

Народная Воля
11 ЛІСТАПАДА 2003 г.

СКАНДАЛ

## Развітанне з «Вольнай сцэнай»

***На мінулым тыдні ў сталічным Доме літаратара адбыўся апошні спектакль незалежнага тэатра "Вольная сцэна". Ён завяршыў сваю сцэнічную дзейнасць скандальна вядомым спектаклем па п'есе А.Дударава "Прынц Мамабук".***

***За некалькі гадзін да развітальнай пастаноўкі карэспандэнтка Радыё "Свабода" сустрэлася са стваральнікам і кіраўніком "Вольнай сцэны" Валерыем Мазынскім на апошняй рэпетыцыі.***

***Валеры Мазынскі прыгадваў гісторыю "Вольнай сцэны" з непрыхаваным болем.***



*"Цяпер мы збіраем манаткі і паспрабуем іх закінуць у нейкі далёкі кут",* — гаворыць Валеры Яўгенавіч.

Паводле меркавання Мазынскага, асноўная прычына закрыцця тэатра — агульная сітуацыя ў краіне. Незалежны беларускі тэатр фактычна задушаны непамернымі дзяржаўнымі паборамі.

*"Арэндная плата вялікая. А цяпер Міністэрства культуры яшчэ адзін хамут павесіла — купляць трэба пасведчанне на кожны спектакль. Гэта ў фінансавым плане яшчэ страшней, чым тая ліцэнзія, якую трэба было купляць раней".*

За права паказу кожнага спектакля незалежнаму тэатру трэба заплаціць больш як 300 тысяч рублёў. Прыкладна столькі ж — за арэнду памяшкання. А яшчэ падаткі. Каб зарабіць такую суму, квіткі мусяць каштаваць як мінімум 20 тысяч рублёў. Такіх грошай не можа плаціць беларускі глядач. Валеры Мазынскі прыняў пакутлівае рашэнне — дакладней, яго вымусілі прыняць такое рашэнне.

На пытанне, што далей, Валеры Мазынскі са скрухай у голасе сказаў: *"Гэта вельмі цяжка. Цяжка нават думаць пра гэта, не тое што гаварыць... У мяне цяпер жаданне проста развітацца з тэатрам. Я ўсур'ёз пра гэта думаю — проста развітацца назаўсёды і заняцца чым-небудзь іншым. Хаця сілы яшчэ на тэатр ёсць, але..."*

"Вольная сцэна" нараджалася тройчы. Першы раз на пачатку 1990-х на Малой сцэне тэатра імя Янкі Купалы спектаклем "Ку-ку" паводле п'есы Міколы Арахоўскага. Тэатр у тэатры задумваўся як творчая лабараторыя для працы з маладымі беларускімі драматургамі. І калі праз некалькі гадоў новы тэатр займеў уласнае памяшканне, гэта было яго другое нараджэнне. Многія з падтрыманых "Вольнай сцэнай" пачаткоўцаў зрабіліся сталымі яе аўтарамі. Неўзабаве "Вольная сцэна" стала адной з самых папулярных у мінскіх тэатралаў ды з поспехам пачала выступаць на міжнародных фэстах.

Многія спектаклі тэатра мелі востра сатырычны ці адкрыта злабадзённы змест, што не спадабалася ўладам, таму стваральнік і нязменны кіраўнік "Вольнай сцэны" Валеры Мазынскі быў звольнены з працы. Тады ён стварыў незалежны тэатр з ранейшай назвай. Гэта было тры гады таму...

**Валянціна АКСАК.**

АСАБІСТАЕ

*Тамара ЛІСІЦКАЯ:*

# «Ён заслужыў такое невыноснае шчасце, як я...»

*У лістападзе адна з самых прывабных і вядомых вядучых «Альфа-радыё» Тамара Лісіцкая выходзіць замуж*




Выбраннік Тамары — праграмны дырэктар "Альфа-радыё" **Глеб Марозаў.**

Спачатку гэта быў звычайны службовы раман.

*"Нашы адносіны адразу можна было назваць дзіўнымі: у пятніцу мы пазнаёміліся, у панядзелак міла, па-сямейнаму сварыліся, а ў сераду абодва не разумелі, як дагэтуль жылі адзін без аднаго,* — гаворыць Лісіцкая. — *Мы разам адпачывалі і ні пра што сур'ёзнае не думалі. Мне тэлефанавалі іншыя мужчыны, яму — іншыя жанчыны. Праўда, нават тады я дакладна ведала, што адчуваю да Глеба, але не думала, што гэта ўзаемна..."*

Аднойчы Глеб запрасіў Тамару ў "Мэдысан-клуб" згуляць у боўлінг.

*"Раней я гэтым ніколі не займалася,* — расказвае Тома. — *У мяне з вялікай цяжкасцю атрымоўвалася кідаць шар. Пасля маіх кідкоў кеглі, зразумела, нават не варушыліся. І я загадала: калі саб'ю ўсе дзесяць, значыць, ён мяне кахае. І раптам адбыўся "страйк"!"*

Быў перыяд, калі Лісіцкая цвёрда вырашыла развітацца з Глебам.

*"Я паспрабавала прыгожа завяршыць нашы адносіны",* — узгадвае яна.

Але Глеб гэтага не дапусціў. І распавёў пра свае пачуцці. Аднак тады ягоныя словы яшчэ не былі прапановай рукі і сэрца.

*"Я нават і не здагадвалася, што менавіта ў той дзень мне прапануюць выйсці замуж,* — усміхаецца Тамара. — *Увесь дзень Глеб хадзіў змрочны і пануры: балеў зуб, і мы разам ездзілі яго лячыць. Увечары ён нібыта збіраўся павіншаваць з днём нараджэння жонку сябра і папрасіў мяне дапамагчы выбраць ёй і яе маці прыгожы букет. Пры гэтым Глеб пастаянна пытаўся: "А які букет падабаецца табе?" Мяне сітуацыя забаўляла, бо выбіраць кветкі чужой жонцы дагэтуль не прыходзілася... Потым Глеб адвёз мяне дадому і сказаў, што ў госці яшчэ рана, таму ён крыху пабудзе ў мяне, а ружы няхай у ванне паляжаць.*

*Пакуль я нешта рабіла на кухні, ён падбіраў музыку, адпаведную сітуацыі. Потым Глеб запрасіў мяне ў пакой (я выйшла з кухні з агурком у руцэ), паставіў на канапу і, уручыўшы адзін з набытых букетаў, прапанаваў выйсці за яго замуж. Калі вярнулася з прагулкі мама з маім сынам, Глеб з другім букетам рашуча накіраваўся да яе: "Прашу рукі вашай дачкі..." Мы абедзве былі вельмі здзіўленыя".*

Да гэтага моманту Тамара Лісіцкая думала, што яе здзівіць вельмі цяжка.

*"Але ў Глеба надзвычайная здольнасць рабіць шоу. Ён вельмі таленавіты. І ён заслужыў такое невыноснае шчасце, як я..."*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**
**Фота Аляксея СМОЛЬСКАГА.**

### Анкета

**Імя**
*Тамара Лісіцкая*
**Адукацыя**
*Журфак БДУ*
**Дасягненні**
*Сын, работа, каханы мужчына*
**Хоббі, захапленні**
*У вольны час пішу кніжкі*
**Любімая страва**
*Усё, што гатую не я.*
**Жыццёвае крэда**
*Заўсёды!!!*
**Самае абсурднае здарэнне ў жыцці?**
*Кожнае другое здарэнне ў маім жыцці — абсурднае.*
**Лепшыя рысы вашага характару?**
*Цярплівасць да недахопаў іншых (і сваіх).*
**Вашы недахопы?**
*Жадаю многа, раблю мала.*
**Дзе любіце адпачываць?**
*Там, дзе ціха і дзе ёсць камп'ютэр, тэлевізар, ванная і коўдра.*
**Самая нелюбімая справа?**
*Прымаць рашэнні.*
**Якія аўтамабілі вам падабаюцца?**
*Любыя, якімі кірую не я, а нармальны вадзіцель.*
**Каму давяраеце працу над сваім іміджам?**
*Люстэрку і разумнаму сэнсу.*
**Што лічыце галоўным у жыцці?**
*Гармонію.*

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

## «Жемчуга» Инны Афанасьевой

*13 ноября в столичном магазине "Мистерия звука"* ***Инна Афанасьева*** *будет раздавать автографы по случаю выхода в свет ее нового альбома* ***"Жемчуга"****. А 14 ноября певица устраивает презентацию нового диска в "West Word club".*

*"В общей сложности работа над диском длилась два года,* — рассказывает Инна. — *Почему так долго? В нашей стране всегда все идет очень туго..."*

Сегодня заглавную песню альбома довольно часто крутят на FM-станциях. В 2002 году эта композиция была признана лучшей песней года, а Афанасьева — лучшей певицей года. Кстати, всего в альбом вошло 14 песен. Все новые. "Жемчуга" выпущены благодаря финансовой поддержке многочисленных друзей Инны.

*"Часть денег на запись альбома дали хорошие друзья, часть денег вложила я сама и коллектив, с которым работаю. Честно говоря, помощников было очень много, их имена будут указаны на обложке",* — говорит Афанасьева.

Буквально сразу после презентации альбома "Жемчуга" Инна планирует начать работу над следующим.

*"У меня есть уже несколько предложений поработать над новым диском, но я хочу, чтобы это была уже совершенно другая музыка, более клубная. Кстати, о клубах. Концертную программу "Жемчуга", которую я впервые представлю в "West Word club", в ближайшем будущем мы намереваемся показать в некоторых других белорусских клубах. Есть предложения выступить с ней в Польше и Украине".*

По словам Инны, цены на билеты в *"West Word club"* будут умеренными.

*"Во-первых, на белорусскую артистку вряд ли кто-то пойдет, скажем, за сто долларов,* — говорит она. — *А во-вторых, мне просто самой хочется, чтобы как можно больше людей смогли попасть на концерт".*



**Марина КОКТЫШ.**

# Прощальный поцелуй Лики Ялинской

*На днях в столичном магазине "Мистерия звука" певица Лика Ялинская презентовала свой новый диск "Прощальный поцелуй"*

За несколько дней до этого мероприятия говорили, что на презентации диска всем присутствующим будут раздавать по килограмму колбасы от мясного магната, президента подмосковной фирмы "Мортадель" **Николая Агурбаша** — мужа Лики Ялинской.

Они действительно пришли вместе. Но только с дисками.

*"Это моя последняя работа под фамилией Ялинская,* — объявила Лика. — *Своего рода черта под белорусским творчеством. Прощание с именем, которое все знают. И начало нового этапа в моей жизни и карьере".*

В "Прощальный поцелуй" Ялинской вошло 13 песен.

*"Число 13 — счастливое для меня. Именно с этой цифры началась моя карьера творческого, публичного человека. И на сцене я уже 13 лет. Можно сказать, что на моих песнях выросло поколение",* — сказала Лика. И похвасталась, что у нее в Калинковичах есть фан-клуб.

Песню, которая дала название диску, Анжелика Агурбаш написала сама.

*"Она родилась совершенно неожиданно,* — рассказывает певица. -- *Во время работы над диском мой продюсер сказал: "Все замечательно, не хватает только главной песни. Той, которая бы стала прощальным поцелуем Лики Ялинской, расстающейся со своим сценическим именем". И у меня внезапно родились строки: "Я посылаю вам прощальный поцелуй, меня увез в Москву хороший парень..."*

Как выяснилось, эта песня — не дебют поэтессы Ялинской. По собственному признанию Лики, раньше она довольно часто выступала в соавторстве со многими поэтами, но *"не было смысла это афишировать".*

Не стала афишировать Лика и причины, по которым не поехала на конкурс "Миссис Мира". Сказала только, что они были довольно серьезными и что она намеревается поехать туда в следующем году.

*"У меня есть такое право",* — говорит она.

Лика не скрывает, что со дня знакомства с Николаем Агурбашем ее жизнь кардинально изменилась. А поклонники певицы заметили, что Лика и сама изменилась: еще больше похорошела.

*"Главный секрет красоты заключается в том, чтобы не было злости внутри. Красивый внутри человек красив и снаружи",* —ответила на комплимент Лика.

*"Муж освободил меня от всех домашних дел. Готовлю я редко и только для детей. У нас есть помощники, которые занимаются домашним хозяйством,* — разоткровенничалась артистка. — *Я не употребляю спиртные напитки. Даже безалкогольные. Не пью, не курю, и у меня появилось очень много свободного времени. В еде я совершенно непривередлива. Обожаю квашеную капусту, картошку, никогда не ограничиваю себя в еде. Я не очень люблю сладкое, но под настроение запросто могу съесть килограмм конфет".*

Сейчас Анжелика Агурбаш работает над новой программой.

*"Это будет чисто российский проект,* — говорит она. — *Мой новый альбом будет называться "Я гарантирую рай". Я не тороплюсь с его записью, хочу сделать все профессионально и качественно".*

Ближайшие сольные концерты Анжелики Агурбаш в Беларуси состоятся весной будущего года.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**




ЭКСКЛЮЗИВ

# «Краски» вынудили уехать из Беларуси?



**Солистку белорусской группы "Краски" Оксану Ковалевскую стрижет француз. Одежду ей подбирает итальянский стилист. А косметику певице привозят из Америки...**

*Об этом в интервью "Народной воле" рассказали сама Оксана и продюсер "Красок" Алексей Воронов.*

**— Алексей, группа "Краски" уже довольно долго тусуется в Москве. Говорят, в Беларусь вы вообще возвращаться не собираетесь. Это правда?**

— Да. И мы очень сожалеем о случившемся, потому что не имеем возможности жить и работать на родине. Мы не чувствуем себя в Беларуси в безопасности и под защитой государства. Скорее, наоборот...

**— Вы, видимо, имеете в виду "налет" на свой минский офис. Кстати, чем закончилось расследование этого странного дела?**

*(Напомним, что 1 апреля люди в черных масках с автоматами в руках вошли в офис группы "Краски" и задержали пятерых сотрудников группы. Офис опечатали. Днем позже увезли все компьютеры, документы, два компакт-диска "Красок". Против популярной группы возбудили уголовное дело.*

*Как писали в некоторых газетах, "Краски" якобы поссорились с неким владельцем сети магазинов, который продавал пиратские диски многих популярных исполнителей. "Краски" рассказали об этом милиции. В свою очередь "бизнесмен" заявил, что люди из "Красок" вымогают у него тысячу долларов и попросил оградить его от попрошаек...)*

— Расследование по этому делу не закончилось, и сфальсифицированные обвинения против нас не сняты. Нам не вернули оргтехнику и документы, изъятые при обыске. Дело как бы повисло, но, по информации из наших источников, правоохранительные органы ждут нашего появления в Минске. Видимо, чтобы в очередной раз устроить какую-нибудь провокацию... Мы уже говорили, что во время первого налета на наш офис со стороны милиции была попытка подбросить одному из наших сотрудников крупную сумму денег. К счастью, этого сделать не удалось, и потому мы все сейчас на свободе. Неизвестно, что захотят нам подкинуть в следующий раз. Обвинения против нас, повторяю, не сняты, и дело не закрыто.

**— Найдены ли источники распространения контрафактной продукции?**

— Да. Мы об этом сразу говорили. Распространяется контрафактная продукция через некоторые государственные магазины.

**— Известно, что авторские права "Красок" должен был защищать РУПИС...**

— Мы написали два заявления в РУПИС по поводу выявленных нами фактов распространения контрафактных дисков. К заявлениям приложили чеки и купленные диски. Однако ни одному нашему заявлению хода не дали. К ответственности никого не привлекли, никаких официальных ответов мы не получили. Но я не обижаюсь на юристов РУПИСа. Они чисто по-человечески нам сочувствуют, но ничего не могут поделать, так как боятся потерять работу.

**— А может, действительно была эта история с вымогательством денег?**

— Не было никакого вымогательства! Просто кому-то сильно не нравилась группа "Краски", нас вынудили уехать из страны. А пиратские диски спокойно продолжают продаваться по всей Беларуси...

**— Значит, в ближайшем будущем "Краски" не собираются выступать в Беларуси?**

— Возможно, настанет то время, когда мы сможем вернуться. Но это будет нескоро.

**— Оксана, скажите, чувствуете ли Вы себя своей в московской тусовке?**

— Мне приятно работать с людьми из московской тусовки. Хотя на самом деле среди них почти нет коренных москвичей. В свое время многие из них, как и мы, были провинциалами. Нас сразу приняли за своих. Сегодня в России "Краски" — законодатели моды в танцевальной музыке. Многие стремятся быть похожими на нас. Это приятно.

**— Некоторые представители белорусской эстрады утверждают, что пробиться на российский музыкальный рынок практически невозможно. Вам это удалось. Расскажите, как?**

— Нужно быть талантливым. Если твои песни нравятся людям, то все придет само. Не хочу никого обижать, но популярные рассуждения о том, что на российский рынок пробиться невозможно, просто утешение для самих себя и для окружающих. Талант пробьется всегда! Ну а если кто-то не дотягивает, то можно сменить профессию. В России своих плохих артистов полно. Зачем еще из Беларуси их тянуть?

**— Тексты Ваших песен вряд ли можно назвать глубокими. Не кажется ли Вам, что через несколько лет о "Красках" никто даже не вспомнит?**

— Нет, не кажется. В песне "Ой, мороз, мороз!", например, и вообще во всех народных песнях тексты еще более неглубокие. А их как пели, так и поют, и еще тысячу лет петь будут! Особенно "Валенки", которые не подшиты и стареньки — их в каждой музыкальной школе изучают! А вы говорите "забудут"! В свое время тексты "Красок" войдут в школьные учебники. Правда, мы тогда уже старенькими будем. И вы еще вспомните мои слова! ***(Смеется.)*** Когда я говорила, что мы будем греметь на всю Россию, мне тоже никто не верил...

**— Оксана, скажите, кто работает над Вашим имиджем?**

— Я сама придумываю, как должна выглядеть. А потом все это реализовывают мастера высочайшего класса. Стрижет меня сейчас один французский мастер из московского салона Жак де Санж. Одежду мне подбирают итальянские стилисты в Голландии. Маникюр и педикюр тоже делают французы. Визажистка — девочка из России, но косметику привозят из Америки. Всё просто...

**— На днях вышел новый альбом "Красок" "Оранжевое солнце". А почему не появляются новые клипы?**

— Мы только вчера закончили съемки нового клипа. Смотрите, скоро появится...

**Мария РУСАКОВИЧ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Прощай, девственность...

***Ресторан "Седьмое небо". Главное событие вечера — эволюция свадебного платья в спектакле "Прощай, девственность" театра моды "Канотье".***

Всего публике продемонстрировали восемь свадебных одеяний, среди которых были не только современные наряды, но и платья времен наших бабушек.

В перерывах между показами публика наслаждалась номерами двух танцевальных дуэтов: Дарьи и Алексея, Павла и Ирины, а также откровенным выступлением стрипт-дуэта *"Братья Карамазовы"* и стриптизера Майкла. Их выходы не только подзадоривали публику, но и еще больше подчеркивали чистоту и невинность моделей, представленных актерами театра моды "Канотье".

Театр моды "Канотье" — это новое слово в мире современного театра и моды, их выступления держатся пока на голом энтузиазме. Пока, конечно, этот театр нельзя назвать профессиональным, но я уверена, что в скором будущем название "Канотье" станет известным и, возможно, скандальным.

**Ольга МАЙ.**

## Кірчук заваёўвае Расію

***Апошнім часам у музычнай тусоўцы ходзяць чуткі пра тое, што лідэр этна-трыа "Тройца" Іван Кірчук падпісаў кантракт з брытанскай групай Massive Attack, з якой яго новы калектыў "Руны" выступаў вясной у Маскве.***

Падобная перспектыва сапраўды была б зайздроснай: Massive Attack — піянеры трып-хопа, аднаго з найбольш знамянальных музычных накірункаў 90-х гадоў.

*"Мне вельмі спадабалася іх выступленне ў Маскве. Улетку мы разам выступалі на фестывалі "Pepsi-Sziget" у Венгрыі. І калі б з іх боку паступіла нейкая прапанова, мы, зразумела, пагадзіліся б,* — гаворыць Іван Кірчук. — *Але ў Маскву нас запрасіў менавіта вакаліст Depeche Mode Дэйв Гэхан, і там мы мелі зносіны толькі з ім".*

Як высветлілася, кантракт Кірчук усё ж такі падпісаў. Толькі не з брытанцамі. *"Дыск праекта "Руны" выпусціць кампанія MSH Records, якая вядомая па праекце "Personal Depeche",* — пацвердзіў Іван Кірчук. Альбом ужо запісаны і выйдзе напрыканцы гэтага альбо на пачатку наступнага года, прычым адначасова ў Беларусі і Расіі. Дарэчы, там праект Кірчука ўжо выклікаў вялікую цікавасць у шоу-бізнес-колах.



**Зміцер БЕЗКАРАВАЙНЫ.**

